


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

14 чэрвеня 2002 года
№ 24 (373)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёна**

## Бадалася карова з цеплавозам

МАЛАДЗЕЧНА. Сем кароў загінула пад коламі пасажырскага цягніка Калінінград-Масква на пераездзе каля вёскі Насілава ў 2.10 ночы 11 чэрвеня.

Жывёліны, якія належаць калгасу імя Гастэлы, адбіліся ад статка ў 200 галоў і прайшлі каля трох кіламетраў. Статак даглядалі тры пастухі. Зрыву графіка руху цягнікоў на станцыі Маладзечна не адбылося.

**Ірына РАБУШКА.**

## «Адна зямля» — у Рымдзюнах

АСТРАВЕЦ. У аўторак прадстаўнікамі аддзелаў культуры рэгіёна прынятае рашэнне аб правядзенні чарговага рэгіянальнага конкурсу эстраднай песні "Адна зямля".

Ён пройдзе 14 ліпеня ў Рымдзюнах. Канкурсанты павядуць барацьбу ў трох узроставых катэгорыях. Першая ад 15 да 18, другая – ад 19 да 23, трэцяя – ад 24 да 30. Удзел у конкурсе прымуць прадстаўнікі з сямі раёнаў, і ўпершыню – мядзяльчане. Сярод заснавальнікаў "Адной зямлі", летапіс якой вядзецца ад 1999 года, і "Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Віляйчане памыюцца

ВІЛЕЙКА. У выхадныя частка Вілейкі будзе падключаная да гарачай вады. Аб гэтым паведаміў рэдакцыі дырэктар аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі Васіль Валадкевіч. Нагадаем, што гарачая вада была адключаная 15 мая ў сувязі з правядзеннем штогадовых прафілактычных работ. Падрабязнасці чытайце на 3–й старонцы.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Крыж над Івенцам

ВАЛОЖЫН. У Івянцы на цэнтральнай плошчы 9 чэрвеня ўстанавілі галоўны крыж царквы, якая прысвечана Ефрасінні Полацкай. Гэта царква была зруйнаваная ўладамі ў 1952 годзе і цяпер адбудоўваецца.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Немцам цікавая экалогія

МЯДЗЕЛ. На мінулым тыдні раён наведала вялікая група прадстаўнікоў нямецкіх дабрачынных і экалагічных арганізацый. Пабывалі яны ля ветракоў, у вёсцы Дружная, на біястанцыі і ў іншых месцах. Паездка арганізавана ў рамках Тыдня экалогіі Рэспублікі Беларусь, адным з арганізатараў якога стала беларуска–германскае прадпрыемства «Надзея–21 стагоддзе».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Дзе твой чорны пісталет?

АСТРАВЕЦ. Памежны нарад у ППК "Катлоўка" на мінулым тыдні вызначыўся тым, што затрымаў грамадзяніна Літвы, які спрабаваў правезці пісталет.

Едучы на аўтамабілі "Мерседэс-123" з жыхаром Казахстана, ён схаваў пісталет маркі "ІЖ-71" і трынаццаць міліметровых патронаў да яго пад крэслам аўтамабіля. Парушальнік узяты пад варту.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**



**Надвор'е на выхадныя**

Субота, 15 чэрвеня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 11°C (уначы) 20°C (удзень) | 11°C (уначы) 20°C (удзень) |

Нядзеля, 16 чэрвеня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 11°C (уначы) 22°C (удзень) | 11°C (уначы) 21°C (удзень) |

# Шматмоўе над Нёманам

**ГРОДНА. Тры дні з 7 па 9 чэрвеня ў Гродне чулася шматмоўная гамана. Тут праходзіў фінальны этап IV Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, у якім удзельнічалі суполкі і калектывы і з нашага рэгіёна. Украінскія "Краяны", грэчаскі "Пелапанес", "Русь" з Маладзечна, "Джана Рома" з Ашмян. Асабліва ўразіла градзенчукоў і гасцей фестывалю маладзечанская дзяўчынка Ліза Карыбава. Яна прачытала верш на грэчаскай мове.**

Праграма ўсіх трох дзён была вельмі насычанай. І кожны меў сваю адметнасць.

Першы дзень адзначыўся тэатралізаваным святочным шэсцем, якое доўжылася гадзіну. Кожны ўдзельнік нёс свой нацыянальны сцяжок. Усяго было прадстаўлена 19 нацыянальнасцяў. Самымі шматлікімі аказаліся палякі, украінцы і яўрэі. Вечар парадаваў фантамі і феерверкамі.

Самы маляўнічы дзень – другі. Нацыянальныя аб'яднанні, якія ўпершыню прымалі ўдзел у гэтым свяце, садзілі свае дрэўцы ў Скверы сяброўства. У марыйцаў была ўсяго толькі адна прадстаўніца, але дрэва марыйцаў будзе расці нароўні з іншымі.

"Краяны" з Маладзечна тут былі старажыламі – удзельнічаюць чатыры гады запар. А на нацыянальных падворках у гэты дзень можна было пазнаёміцца з дэкаратыўнай творчасцю, нацыянальнымі кухнямі, мастацкай самадзейнасцю.

Незаўважна палышоў трэці дзень. Цэнтральнай яго падзеяй было свята нацыянальных кухняў народаў Беларусі. Каштавалі прысмакі ў вялікім коле. Вядома, было і ўзнагароджанне ўдзельнікаў. Завяршыўся дзень вялікім гала–канцэртам.

**Ірына РАБУШКА.**




Гродна пела і танцавала тры дні.

Фота IREX/ProMedia.

# У нашых бамбасховішчах не схаваешся

**Маладзечна. 60% бамбасховішчаў горада знаходзяцца ў стане, які не дазваляе іх эксплуатаваць. Горад можа стаць неабароненым, хаця прывід 11 верасня многімі ўсур'ёз не ўспрымаецца.**

У Маладзечне 44 бамбасховішчы. Як гаворыць галоўны спецыяліст па дзяржаўнай сістэме папярэджвання і ліквідацыі надзвычайных сітуацый Генадзь Наумец – гэта не многа. На прадпрыемствах, дзе яны размешчаныя, бамбасховішчы разлічаны на найвялікшую змену работнікаў. Напрыклад, вялікая ўмяшчальнасць у бамбасховішча на прадпрыемстве Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Іншыя гараджане не забяспечаны абароннымі збудаваннямі. На асобны выпадкі прадугледжана поўная эвакуацыя ў загарадную зону.



Фота Ірыны РАБУШКІ

Пад гэтымі мурамі СШ №5 у бамбасховішчы прытулілася зала атлетычнай гімнастыкі.

У больш-менш добрым стане знаходзіцца 40% бамбасховішчаў. На два падрыхтаваныя дакументы аб спісанні. Адно належыць дзіцячай музычнай школе. Яно магло б абараніць не толькі ад бомбавых выбухаў, а і ад радыяцыйнай небяспекі. Другое – кінатэатру "Радзіма".

Некаторыя бамбасховішчы ў горадзе выкарыстоўваюцца не па прызначэнню. У сярэдняй школе №5 бамбасховішча пераатварылі ў атлетычную залу. Большасць знаходзіцца ў непрыдатным стане. Да 15 чэрвеня ўсе бамбасховішчы павінны адрамантаваць прадпрыемствы, за якімі яны замацаваныя. Але фабрыка музычных інструментаў рамонту яшчэ і не пачынала. Плануе распачаць 17 чэрвеня.

Сітуацыю каменціруе старшы інспектар гарраддзела па надзвычайных сітуацыях Георгій Пажытнаў.

— Бескантрольнасць. У першую чаргу гэта тычыцца кіраўнікоў прадпрыемстваў. Яны лічаць, што бамбасховішчы не патрэбныя. Таму і аказаліся ў разрабаваным стане.

**Ірына РАБУШКА.**

## Вясёлыя ночы

**АШМЯНЫ. Начная дыскатэка для ашмянцаў – навіна. Такога тут не было ніколі.**

На дыскатэку дазваляюць хадзіць з 18 гадоў. Тут прапануюць шоу-праграму. Працуе бар. Ініцыятарам стварэння такой дыскатэкі былі аддзел культуры і яго загадчыца Галіна Балінская.

Галіна Балінская:

— Моладзі пасля 20 гадоў няму куды пайсці. Зараз яны могуць завітаць у раённы Дом культуры на начную дыскатэку. Апошнім часам набіраецца чалавек 100. У асноўным 25-30-гадовыя.

**Ірына РАБУШКА.**

## Усе майстры да нас у госці

**МАЛАДЗЕЧНА. Ганчарных спраў майстры з 12 раёнаў Мінshчыны збяруцца у Радашкавічах заўтра на IV абласное свята-конкурс "Гліняны звон".**

І вопытныя, і юныя ганчары будуць спаборнічаць адразу ў двух накірунках – рабоце на ганчарным крузе і з дробнай пластыкай. За шэсць гадзін ім патрэбна будзе вырабіць тры адзінкі посуду, а таксама гліняныя фігуркі на адвольную тэму.

Свята ганчароў прымеркавана да 550-гадовага юбілею Радашкавічаў. Таму ў яго праграме чакаецца нямала цікавых момантаў: тут і мастацкая частка, і конкурсы, і гандлёвыя рады. Сумаваць, такім чынам, не давядзецца нікому.



Фота Ларысы СТУПІНАЙ.

**Народны майстар з Радашкавічаў Валерый Бусараў дэманструе свае вырабы на "Маладзечанскім кірмашы-2001".**

## Альбом Рушчыца

**5 чэрвеня ў Акадэміі мастацтваў адбылася прэзентацыя унікальнага альбома-каталога твораў выдатнага беларускага мастака, нашага земляка Фердынанда Рушчыца (1870-1936). Арганізатарам прэзентацыі стала грамадская ініцыятыва "Еўрапейскі шлях".**

З дакладамі выступілі кандыдат мастацтвазнаўства мастак Міхаіл Баразна, музыкант, лаўрэат міжнародных конкурсаў і краязнаўца Аляксей Фралоў, студэнтка Акадэміі мастацтваў Лія Кійко. Была прадэманстравана фотавыстаўка Міхаіла Баразны, прысвечаная жыццю, творчасці і радзіме Ф.Рушчыца.

**BARCHNEWS.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Пах даўніны

**Гэтая фатаграфія – адна з некалькіх дзесяткаў, што захоўваюцца ў старым бардова–карычневага колеру альбоме. Я калінікалі заходжу ў Мінскі абласны краязнаўчы музей. Разглядаю старадаўнія рэчы, адзенне, мэблю і інш. На гэты раз мне давялося разгарнуць стары сямейны альбом. Пах даўніны. Ён асаблівы. Разглядаючы стары альбом, адчуваеш той час, канец 19-га пачатак 20-га стагоддзя.**

Гэта сям'я, напэўна, звязана з медыцынай. Ёсць фатаздымкі, на якіх людзі ў белых халатах. Амаль на ўсіх фотакартках напісана Vilna. Сям'я жыла ў Вільні. Кідаецца ў вочы мноства мужчынскіх партрэтаў. Можа, у гэтай сям'і былі сыны ці іх была большасць. А мо, яны больш любілі фатаграфавацца.

У той час у Вільні працавала шмат фатаграфічных атэлье. Тады яны проста называліся "фатаграфія". Перагорнем фотакарткі і пачытаем: "Фотография Э. Бинковича. Вильна. Вилейск. ул. д. гр. иж. Янушевского (Виленская). Специальный Кабинетъ для увеличения портретовъ до натуральной величины. Работа выполняется художественно. Негативы хранятся". А вось у фатаграфіі І. Хановіча і сына можна зняцца і ў снег, і ў дождж: "Снимаю во всякую погоду".

"Геаграфія" сям'і сягала некалькіх сённяшніх дзяржаў. Варшава, Вільня, Дзвінск – цяпер Даўгаўпілс у Латвіі: "Дарю на память Марии Вир...кой отъ крестника Николая Николаевича. Борисо... 15.IV.1898 г.".

**Ірына РАБУШКА.**




Фота прадастаўлена Мінскім абласным краязнаўчым музеем.

**У той час у Вільні працавала шмат фатаграфічных атэлье. Тады яны проста называліся "фатаграфія". Трое мужчын, якія могуць быць сваякамі (вельмі падобныя між сабой), а можа, проста калегі, прыйшлі ў віленскае атэлье пана Чыжа,пра што сведчыць ціснёны надпіс на кардонным паспарту, каб сфатаграфавацца і, як вядзецца, пасласць сваім блізкім па фотакартцы. Імгненне. І ты ў гісторыі. Прынамсі, у гісторыі сваёй сям'і, захавальнік якой – стары сямейны альбом, старонкі якога я перагарнула ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ

## Як адвакат «дапамог»

**Валожын** Ашмянск пав. У нашай старане народ вельмі любіць суды, але ешчэ больш любяць гэта нашые адвакацікі сваей гадоўлі, каторых завялося ў нас парадна і іншые такіе мудрые, што хоць ты стой ды дзівуйся, як яны ёмка абрабляюць свае справы. Нідяўна з бліжэйшых нашых вёсак дзяліліся два браты і як гэта з давён вядзецца, пры дзяльбе прабдзёўб адзін другому галаву; той падаў у суд і вуездны член прыкінуў гэнаму тры месяцы адседкі. Гэны недаволен і перэдаўся у акружны суд і там яму зменшылі кару на адзін месяц. Добра і гэта, але усё-ж трэба сядзець, а тут рабочы час—сеўба. Вось ён ідзе да адваката параіцца, як тут зрабіць, каб адбыць кару пасьля сяўбы. Адвакат узяўся за нітачку і намахаўшы прашэньне сказау занясці ў воласць пасьведчыць подпісь, бо ён быў не пісьменны. У воласьці, як прачыталі тое прашэньне, дык сталі ўсе рагатаць, бо там было гэтак напісана: „што ён нездаволен гэным судом і просіць прадоўжыць кару». Выходзіло так, што заместа аднаго месяца ён сам сабе прасіў тры! І добра ешчэ, што пісар быў добры чэлавек і загадаў свайму памочніку напісаць прашэньне па людзку, а то, чаго добраго, гатовы былі да аднаго месяца далажыць ешча два. Быў і я ў той час у воласьці і пытаюся: „сколькі ж, вашэ, даў адвакату за гэтвае прашэньне?» А ён мне атказаў: «гатоўкі не даваў, але гэтак, па суседзку, шкалікоў с чатыры апаражнілі».

**Стары Ўлас.**
**«Наша Ніва».**
**№24 ад 14 чэрвеня 1912 г.**

## У Маладзечне дырэктар не будзе чытаць лісты

**Молодэчна**, Вилен. губ. Ўжо даўно ў молодэчненскай вучыцельскай сэминарыи устанавіўся таки звычай, што ўсе письма да вучэникоў праходзили праз руки дырэктара, каторы чытаў гэтые письма. Тады вучэники пастанавили збавицца ад такой апеки. Дзела цягнулося доўга, і тольки нядаўна вучэники молодэчненскай сэминарыи дабилися таки права палучаць письма без помачы дырэктара.

**«Опальны»**
**Першая Беларуская Газэта з Рысунками**
**«Наша Ніва».**
**№22 ад 8 юня 1907 года**



■ ЧАЛАВЕК СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

# Індыкатар цела і душы

Бадай што самая незаўважаная праца ў бальніцах – гэта праца лабаранткі. Склалася думка ў людзей: катэгорыя медыцынскіх лабарантаў, як бы мовіць, выконвае чарнавую работу. Урач напіша: трэба такі і такі аналіз крыві, мачы і г.д. І на гэтым амаль кантакт лабарант-урач вычэрпваецца. Нібы толькі ў гэтым функцыя лабаранткі... Іх аплата самая нізкая ў бальніцах, а работы шмат, сядзяць крукам увесь рабочы дзень. Нярэдка і хворыя дакараюць: "Колькі вы будзеце смактаць нашу кроў?".Не кожнаму прыходзіць у галаву, што без дакладных аналізаў нельга паставіць дакладны дыягназ хваробы. Раўнадушная лабарантка шкодзіць здароўю, часам заводзіць урача ў тупіковую сітуацыю. Лабарантка, яе кваліфікацыя – люстэрка чалавечага арганізма... Мой допіс, прынамсі, пра сумленную лабарантку, якая 45 гадоў працуе на гэтай пасадзе і мае высокую павагу ад людзей. Прафесійнасць – галоўная якасць у рабоце.

... Яна прачынаецца разам з птушкамі. Як толькі неба зайграе чырванню, Вера Аляксандраўна на нагах. Рупіцца накарміць парасят, зрабіць сняданак мужу, прыхарашыцца і ў сем, кульгаючы, ідзе на аўтобус, дабіраецца да бальніцы. Урачы пастаўілі несуцяшальны дыягназ: варыкознае расшырэнне вен, паражэнне дробных капіляраў. Сэрца таксама ім не спадабалася, ды, у прыдачу, пакутуе ад артрыту. Выходзіць, сядзі дома, чакай той хвіліны, калі "кашчавая" прыбяжыць. На той час яшчэ маладая кабета, яна сумна кіўнула галавою, а ў душы не пагадзілася з лекарамі. "Што Бог пашле, тое і будзе, — пераконвала сама сябе. – У мяне на руках дзве дачушкі, муж хворы, не магу я пакінуць іх. Бог і так пакараў: забраў сыночка Сашу... Дачушка Алена цяжка хварэе. Буду неяк рухацца па жыцці. Яно так лепш, на людзях нашмат лягчэй.

Яна прыгадала паўнаводную рэчку Сулу, родную вёску Засулле, апошні наказ маці: "Дачушка, заўсёды ідзі з Богам, і будзе доўгай дарога. Шануй людзей, адары іх сваёй спагадай. Сумленне, дачушка, не купляецца і не прадаецца, яно само па сабе, ад прыроды... З праўдаю далей дойдзеш".

Праз усё сваё нялёгкае жыццё Вера Аляксандраўна Белая памятае гэтыя шчырыя словы матулі. Вытокі іх ад бароў, гаёў Стоўбцаўшчыны з маляўнічымі лугамі, які аздабляе чысты, хуткі Неман, гаючай памяці тых, хто ўзгадаваў яе, прывіў павагу да сваіх каранёў. Гэтыя высокія якасці душы яна передала сваім дзецям Алене і Тані. Яны закончылі БДУ, выбралі родную мову, завялі сем'і. Зяці Пеця і Вася з высокай павагай ставяцца да цешчы: адчуваюць мацярынскую ласку, духоўную падтрымку. Ахвотна прыязджаюць у Радашкавічы, каб дапамагчы, прыпыніць тую працу, якая ўжо непасільная для старых рук. Твар бабулі азараецца сонечнай усмешкай, калі бачыць унукаў – Ванечку і Наташку. Дзякаваць Богу, жывуць дзеці ў згодзе, а гэта заўсёды галоўнае для маці, яе душэўнай раўнавагі.

Пачала сваю працоўную біяграфію Вера Аляксандраўна яшчэ зусім дзяўчом у Снове, што ў Нясвіжскім раёне, лабаранткай ваеннага шпіталю. Выйшла замуж, пераехала ў Радашкавічы ў 1957 годзе. З той пары служыць людзям сумленна, адказна, прафесійна. Здавалася, што тут мудрагелістага: зрабіць аналіз мачы ці крыві, глянуць вокам у мікраскоп і аддаць на пост дзяжурнай. Аднак гэта не такая простая навука. Як выказаўся мой сябар прафесар Аркадзь Грэсь, "правільны аналіз чалавечай хваробы, гэта ўжо аснова правільнага дыягназу пацыента. Лабарант – галоўны індыкатар чалавечай душы і цела. Таму вялікая адказнасць у лабаранткі перад сабой і людзьмі. А ў нас бясспрэчны давер іх аналізам".

... Да яе ідуць, звоняць шматлікія пацыенты, дамаўляюцца. Ідуць як да чыстай крыніцы, бо ведаюць: яна высокі спецыяліст і не дарue сабе хоць маленькай памылкі. Ніколі не адмовіць, калі чалавек трапіў у біду. Кажуць добрыя людзі: "Не смейся чужой бядзе – свая наградзе". Неабыякавасць, дакладнасць, спагада – галоўныя рысы характару Веры Аляксандраўны. Безумоўна, мусіць быць тут стэрыльная чысціня. Як выказваецца яна сама: " Калі чыста ў хаце, такі будзе парадак і на рабоце". Няма ў яе лексіконе слоў: "не дагледзела". Калі ёсць сумненне, яна не палянуецца перарабіць аналіз, бо добра разумее, што за ўсім гэтым стаіць лёс чалавека. Разумее: пажыві для людзей – пажывуць і для цябе.

У бальніцы яе паважаюць, цэняць не толькі як супрацоўніка, але і як добразычлівага чалавека. Маладзейшыя часта дзеляцца з ёй радасцю, бядою, давяраюць асабістыя тайны, аблягчаюць душу. Таня Шубянкова, былая выхаванка школы-інтэрната, расіянка, працуе поруч, вучыцца ў вопытнай настаўніцы. Нік расчулілася, даверліва сказала:

— Вера Аляксандраўна, вы мая другая мама, а я ваша старэйшая дачка. Дзякую вам, што вы робіце з мяне чалавека.

Не адна і не дзве маладзенькія лабаранткі прайшлі школу ў вопытнай настаўніцы, палюбілі гэтую працу, пакінулі ў сваіх сэрцах глыбокі след мацярынскай ласкі. Не будзе асаблівым перабольшваннем, калі выкажу думку жыхароў пасёлка: "Вера Аляксандраўна – чалавек вялікага сэрца. Як бы яна ні была занятая, але нікому не адмовіць, дапаможа. Сапраўды, добрых людзі пазнаюцца ў бядзе. Мы віншуем яе з прафесійным святам. Жадаем здароўя, шчасця, радасці ".

Так, яна ўжо на пенсіі. Здароўе пахіснулася ў горшы бок. Пісала заяву, каб знайшлі ёй замену. Галоўны ўрач бальніцы Ірына Троцкая дабрадушна ўсміхаецца: "Як жа мы будзем працаваць? Мы без вас, як без рук. Ведаем ваш стан здароўя і ўзрост. Тым не менш, заставайцеся з намі. Папрацуйце". Так і ходзіць кожны ранак у бальніцу, задаволеная тым, што людзі ёй давяраюць.

**Міхась ЗІМОК.**

# Колькі каштуеш, выпускнік?

**Канец навучальнага года азначае для выпускнікоў набліжэнне немінучага выніку адзінаццацігадовага школьнага жыцця – выпускнога балю. Калі спытаць сённяшніх старшакласнікаў аб тым, якое свята ў роднай школе здаецца ім самым уражваючым і доўгачаканым, многія радасна ўсклікнуць: “Безумоўна, выпускны баль!”.**

Пагутарыўшы са сваімі аднагодкамі, я таксама зразумела, што для кагосьці са школьнікаў выпускны баль – залаты ключ, які адчыніць дзверы ў самастойнае жыццё, стане дарагім талісманам і заступнікам, дапаможнікам у будучых справах.

А для некаторых выпускны баль – гэта ў першую чаргу развітанне са школай, з вельмі строгімі настаўнікамі (на шчасце, іх не вельмі многа), з двойкамі.



З верай у казку… Выпускны баль. Фота IREX/ProMedia.

Як бы там ні было, усім вядома, што выпускны баль, як і вяселле, нараджэнне маленькага чалавека, – свята эксклюзіўнае. Таму і рыхтавацца да яго патрэбна сур'ёзна і найлепш загадзя.

Мудрыя людзі заўсёды дзейнічаюць у адпаведнасці з народнай прымаўкай: “Рыхтуй сані летам, а калёсы ўзімку”. Зыходзячы з гэтага прынцыпу, я ўзялася вызначаць “кошт” сярэднестатыстычнага выпускніка. Вось што атрымалася.

Усім хочацца выглядаць элегантна і стыльна на першым у жыцці балі. Асаблівае жаданне “выглядаць на ўсе 100” уласціва дзяўчатам. Іх бацькам, напэўна, і прыйдзецца зацягнуць тужэй рамяні. Чаму?

Найперш таму, што выпускніцы патрэбна сукенка (ды не абы якая!). Яе кошт вагаецца ад 100 да 120 тысяч беларускіх рублёў. Зразумела, некаторым гэтая сума здасца казачнай. На гэты выпадак ёсць другі выхад – узяць сукенку напракат, што значна танней (35 тысяч рублёў). Але аб праканце добрай сукенкі патрэбна паклапаціцца загадзя, каб потым не застацца з носам. Да ўжо названай сумы не забудзьцеся дадаць кошт прыгожага абутку (паравага аддаецца басаножкам на высокіх абцасах). Ніводная дзяўчына не пажадае застацца без моднай прычоскі. А яе аплата “выльецца” ў дадатковыя 20 тысяч рублёў. Чароўны макіяж у лепшых маладзечанскіх салонах каштуе 9 тысяч. Мабыць, запатрабавальная юная прыгажуня пажадае зрабіць манікюр? Гэта, калі ласка, але за 6 тысяч. Да таго ж, нельга забывацца і на казачныя ўпрыгожванні і сумачку (пры жаданні спіс можна прадоўжыць)… Колькі ў вас атрымалася? Упэўнена, што не менш, чым два сямейныя бюджэты.

Ці магчыма забыцца на хлопцаў-выпускнікоў, што таксама не жадаюць саступаць у знешнім выглядзе адзін аднаму? Канешне, не. Але бацькам юнакоў прыйдзецца заплаціць значна меншую суму: мужчынскі абутак таннейшы, а макіяжы-манікюры і зусім не адпавядаюць натуры юнакоў. Толькі каштоўныя дзявочыя сукенкі падмяняюцца ў дадзеным выпадку стыльнымі касцюмамі. Вынік: выпускнікі “каштуюць” менш у параўнанні са сваімі былымі аднакласніцамі.

Дарэчы, каб адчуць сябе па-сапраўднаму шчаслівым на школьным вечары, не абавязкова рабаваць кішэні бацькоў. Дастаткова проста верыць у казку, у свята ўсіх выпускнікоў. Тады нашы запаветныя мары і жаданні ператворацца ў рэальнасць: смачныя пачастункі, прыемная музыка, вясёлыя жарты пальюцца ракой, сонечнымі будуць усмешкі на тварах настаўнікаў, а смех выхаванцаў незвычайна звонкім. Упэўнена, пачатак самастойнага жыцця стане незабыўным менавіта дзякуючы бацькам выпускнікоў. Спадзяюся, што кожны з нас, сучасных адзінаццацікласнікаў, дакранецца да свайго шчасця падчас выпускнога балю. Пакуль жа, жадаю ўсім-усім не губляць веру ў асабістыя сілы.

**Эльміра АБАСАВА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 6 чэрвеня | 13 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1777,00 руб. | **1786,00** руб. |
| ЕЎРА | 1666,29 руб. | **1694,11** руб. |
| Злоты | 441,90 руб. | **443,18** руб. |
| Літ | 482,62 руб. | **490,63** руб. |
| Расійскі рубель | 56,66 руб. | **56,89** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1790 – 1810 руб. | **1790 – 1810** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 5.06 | 12.06 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 10500-12700 | **11700** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 2135-4900 | **2175-4900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2300 | **2300** |
| **Рыс**, 1 кг | 650-920 | **650-1000** |
| **Грэчка**, 1 кг | 510-560 | **510-580** |
| **Цукар**, 1 кг | 740 | **740** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 700-880 | **680-880** |
| **Алей**, 1 л | 1400-1950 | **1400-1950** |
| **Маянэз**, 200 г | 340-350 | **400-550** |
| **Кава “Пеле”**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **580** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 580 | **530-600** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 900-1100 | **1300** |
| **Капуста**, 1 кг | 900-1500 | **490-650** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1800-2000 | **1200-2150** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1200-1500 | **1400-1500** |
| **Агуркі**, 1 кг | | **800-1000** |
| **Памідоры**, 1 кг | | **1800-2000** |
| **Чарэшня**, 1 кг | | **1800-2500** |
| **Клубніцы**, 1 кг | | **1500-2500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 1500-2000 | **1700-1800** |
| **Масла**, 1 кг | 3500 | **3500-3600** |
| **Тварог**, 1 кг | 1300-1700 | **1300-1400** |
| **Малако**, 1,5 л | 500 | **450-500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1300-1400 | **1300-1400** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2400-2600 | **2800-3000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | | **1500-2500** |
| **Клубніцы**, 5-літровае вядро | | **5000-5500** |

# Сустрэлі лета з басейнам

**ВАЛОЖЫН. Жыхару Івянца Вінцэнту Солтану не трэба ў спёку цягнуцца да якога вадаёма: заўсёды можна акунуцца ў двары свайго дома. Ужо шэсць год там ёсць басейн.**

Займець басейн хацелася даўно: і для зручнасці, і для ўпрыгожання двара. Дзеці Алесь і Яўген прынялі ідэю на «ура». Сыны ж у асноўным і займаліся будаўніцтвам. На грузавым матаролеры ездзілі, збіралі па палях камяні і пад кіраўніцтвам бацькі укладвалі. За месяц зрабілі басейн аб'ёмам 10 кубічных метраў. Прычым, ён мае незвычайную форму – нагадвае след.

– Раіўся са знаёмымі мастакамі, архітэктарамі і вырашыў зрабіць у форме сляда чалавека, – расказвае Вінцэнт. І жартуе. – Можа, такім чынам пакінем след на зямлі...

А сезон купанняў у гэтым годзе распачалі ўжо ў канцы красавіка. У спякотны дзень не шкодзіць і некалькі разоў акунуцца. Як і ў вялікім басейне, ваду тут па неабходнасці хларыруюць, мяняюць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Водныя працэдуры прымае сын Яўген. Фота з архіву сям'і Солтанаў.

# Віляйчане памыюцца

**ВІЛЕЙКА. У выхадныя частка Вілейкі будзе падключаная да гарачай вады. Аб гэтым паведаміў рэдакцыі дырэктар аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі Васіль Валадкевіч. Гарачая вада была адключаная 15 мая ў сувязі з правядзеннем штогадовых прафілактычных работ у Маладзечне і ў Вілейцы адначасова.**

Супадзенне невыпадковае – ад мінулага года гарадская кацельня ў Вілейцы перададзена з баланса завода “Зеніт” Маладзечанскім электрасеткам.

Аднак у Маладзечне гарачая вада ёсць ужо больш за тыдзень. Чаму атрымалася затрымка ў Вілейцы?

Галоўны інжынер Маладзечанскіх электрасетак Іван Малінец:

– Вілейская ЖКГ павінна была скончыць апрасоўку яшчэ 31 мая. Але гэтага не зроблена. Пасля сканчэння апрасоўкі патрэбныя яшчэ 3–5 дзён, каб зняць заглушкі. Толькі пасля можна даваць ваду. Затрымка за вілейскімі камунальнікамі.

У Вілейскай ЖКГ затрымку тлумачаць непрадбачана вялікай колькасцю парываў. Галоўны інжынер Аляксандр Фядорчанка кажа, што працягласць гарадскіх цеплатрас 20 кіламетраў і цяжка прадбачыць, што на іх можа чакаць пры апрасоўцы.

У любым выпадку у Вілейцы падпарадкаванне гарадской кацельні Маладзечанскім электрасеткам абернецца для віляйчан станоўча, бо гэта падпарадкаванасць дысцыплінуе камунальнікаў больш, чым хаўрус з завадчанамі, у якіх сваіх праблем вышэй за галаву.

**Ірына РАБУШКА, Мікола ГАЙДУК.**

# «Эканаміст» – лепшы летнік на Вілейшчыне

**Пабудаванае кафэ-бар. Набытае новае халадзільнае абсталяванне. Заканчваецца будаўніцтва танцпляцоўкі. Усё гэта зроблена да адкрыцця дванаццатага сезона ў спартыўна-аздараўленчай базе “Эканаміст” Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.**

Першая змена пачнецца 15 чэрвеня. 18 дзён на базе будуць адпачываць дзеці, пасля прыедуць студэнты і настаўнікі.

У 12 доміках фінскага тыпу і 35 шатрах будуць жыць 120 дзяцей. У кожным доміку па два пакоі, кухня, спадарожнікавае тэлебачанне, печка і камін.

Па словах загадчыка гаспадаркі Аляксандра Бладыкі, пад час змены праводзяцца гульні, спартланды, свята Вадалея. Арганізаваць іх дапамагаюць настаўнікі-спартсмены. Напрыклад, дырэктар базы – трэнер па міні-футболу.

У асноўным, калі надвор'е добрае, усе на пляжы, які абсталяваны разам з дзіцячым аздараўленчым цэнтрам “Надзея XXI стагоддзя”. Плануецца пабудавацца і свой.

Базе таксама выдзелена тры гектары на пашырэнне. Пабудуецца лазня і 8-кватэрны стацыянар, які будзе працаваць зімой і летам.

Сярод васьмі дзіцячых аздараўленчых лагераў на тэрыторыі Вілейскага раёна “Эканаміст” з'яўляецца самым лепшым аб'ектам у выкананні рэкамендацый па пажарнай бяспецы. Аб гэтам сказала інспектар пажарна-выратавальнай службы Алена Альфер.

Інспекцыя дзяржаўнага пажарнага нагляду раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях правяла дэталёвае пажарна-тэхнічнае абследаванне лагераў адпачынку ў маі. Па выніках праверкі кіраўніцтву лагераў былі прапанаваны канкрэтныя мерапрыемствы па ліквідацыі выяўленых недахопаў.

“З лепшага боку адзначу базу адпачынку, якая знаходзіцца ў вёсцы Будзішча, Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, ” — сказала Алена Рамуальдаўна.

Па яе словах, адміністрацыя базы сур'ёзна паставілася да пытанняў па пажарнай бяспецы. Да гэтага аздараўленчага перыяду домікі абсталявалі маланкаадводамі. Іх унутраныя сцены апрацаваны вогнеахоўным саставам. Электраправодка пракладзена згодна з правіламі ўстройства электраўстановак. Дадаткова набыта 20 вогнетушыцеляў. У адпаведнасці з супрацьпажарнымі нормамі і правіламі ўстаноўлена пячное ацяпленне.

**Ірына ГЛУШАКОВА.**



# ВІНШАВАНКІ

Віншуем з днём нараджэння **Людмілу Макарскую**! Жадаем здароўя, шчасця, кахання, здзяйсненне мараў, удачы. *Святлана, Вольга.*

**Яўгена Ульчыца** і **Таццяну Лубнеўскую** віншуем з уступленнем у шлюб! Жадаем шчасця, кахання, здароўя. *З любоўю родныя.*

Віншуем з 40-годдзем **Свету Яроміну**! Жадаем ёй здароўя, дабрабыту, кахання! *Калектыў д/с №5 з Вілейкі.*

З днём нараджэння **Люду Клімянок** з Вілейкі! Здароўя ёй, шчасця, усіх зямных даброт! *Твае сяброўкі.*

Віншую з днём нараджэння мужа **Віталя Валенціновіча** і сынулю **Мікіту**! Шчасця, здароўя, кахання. *Жонка.*

Віншуем дарагога **Георгія Дзмітрыевіча Дземідовіча** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, даўгалецця, удачы. *Жонка, дачка, зяць, унучка.*

Віншуем з днём нараджэння **Галіну Мікалаеўну Шырко**! Жадаем здароўя, кахання, шчасця, удачы. *Інна, Алена, Сяргей.*

Паважаная **Ірына Васільеўна Андрэева**, сардэчна віншуем з юбілеем! Жадаем бадзёрасці, моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця. *Ніна, Зоя.*

Віншую з днём нараджэння самую лепшую сяброўку **Святлану Мацкевіч**! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, кахання, поспехаў. *Оля.*

Віншуем з днём нараджэння **Святлану Мацкевіч**! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у жыцці і моцнага кахання. *Бацькі і сястра Лена.*

Дарагая **Зінаіда Васільеўна**! Віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем здароўя, радасці, сонечнага неба. *Сям'я Чэрнікаў.*

## ■ ІМЯНІНЫ

**14 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Аліны, Валяр'яна, Дзяніса, Харытона, Усціна.
**Каталіцкія**: Цела і Крыві Гасподняй, Эльвіры, Базыля, Валерыя.

**15 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Ульяны, Івана, Нічыпара.
**Каталіцкія**: Іяланты, Віта.

**16 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Паўлы, Дзмітрыя, Дзяніса, Іпата, Лук'яна, Паўла, Юльяна.
**Каталіцкія**: Аліны, Юстыны.

**17 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Засімы, Мяфодзія, Мітрафана, Севярына.
**Каталіцкія**: Лауры, Адольфа, Альберта.

**18 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Апалона, Дарафея, Ігара, Іоны, Леаніда, Нікандра.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Марка.

**19 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Іларыёна, Іоны.
**Каталіцкія**: Гервазі, Марцэля, Пратаза, Рамуальда.

**20 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Валерыі, Антаніна, Багдана, Маркела, Фядота.
**Каталіцкія**: Богны, Флярэнціны.



# ЗНАЁМСТВЫ

Шукаю добрага, матэрыяльна забяспечанага мужчыну, якому я падару пяшчоту, ласку, клопат і каханне. 45/160/62. Маладзечна-6, МС 0535633.

Сімпатычная, стройная жанчына 34/167, в/а, без жыллёвых праблем, пазнаёміцца з мужчынам без шк/зв., для сур'ёзных адносін. Маладзечна, галоўпаштамт, МС 0651415.

35/170/58. Спадзяюся на сустрэчу з добрай і надзейнай жанчынай. Пра сябе: без жыллёвых праблем, шк/зв.у памерах нормы. Маладзечна-6, КН 0239441.

Удава, 45/165, пазнаёміцца з прыемным, добрым мужчынам да 50 год, для сур'ёзных адносін. 222410, Вілейка, п/п МС 0847878.

## Кінатэатр «Радзіма»

**17-23 чэрвеня**

**"Дарожная прыгода"**, ЗША, камедыя, акрамя асоб да 16 гадоў, — у 19.00 і 21.00.
**"Дабіся поспеху"**, ЗША, камедыя — у 17.00 (відэасістэма).

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ.**

17 чэрвеня – **"Цацкавая гісторыя-2"**, мультфільм – у 10.00.
18 чэрвеня – **"Як справіцца з бацькам"**, камедыя – у 10.00.
19 чэрвеня – **"Каты-арыстакраты"**, мультфільм – у 10.00.
20 чэрвеня – **"Паходжанне імператара"**, мультфільм – у 10.00.
21 чэрвеня – **"Гарбун з Нотр-Дама"**, мультфільм – у 10.00.
23 чэрвеня – **"Коцік"**, мастацкі фільм – у 13.00.
Кожную пятніцу, суботу і нядзелю праводзіцца дыскатэка для моладзі.
Прымаем заяўкі на правядзенне выпускных баляў.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 24

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## ■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

### Добрыя намеры

Гаворыць адзін маленькі хлопчык:

— Мама! Калі я вырасту, то ажанюся з дзяўчынкай, у якой будзе не больш за два дзіцяці. Гэта каб табе, мама, было лягчэй іх гадаваць!

### У цягніку

Еду ў цягніку з Гомеля ў Мінск. На двары – ноч. А на верхняй паліцы нашага плацкартнага вагона размарыла нейкага мужыка. І такі храп стаіць, што, калі заплюшчыш вочы, то ўявіш сябе на будаўнічай пляцоўцы, дзе працуе адбойны малаток. Першая не вытрымала дзяўчынка гадоў чатырох-пяці. Перакрыкваючы нашага "саліста", яна сказала:

— Мама, пабудзі, калі ласка, гэтага чалавека і скажы яму, што ён ужо прыехаў!

### Злое каханне

Крочыць па студэнцкім інтэрнаце дзяўчына. Твар ззяе, ногі самі танцуюць. Што такое, пытаемся, здарылася?

— Ды мне Энэбі з Малі зрабіў прапанову! Ён такі пяшчотны! І такі багаты-багаты! У яго ў Малі на акіянскім узбярэжжы стаіць шыкоўны катэдж. Сам фотку паказваў!

Давялося весці гэтую студэнтку да геаграфічнай карты і доўга шукаць у пясках Сахары тое "ўзбярэжжа". А потым яшчэ і выслухоўваць праклёны ў адрас гэтага жаніха-падпальшчыка. Так што, каб лепш ажаніцца, трэба перад гэтым лепш павучыцца!

**Алег БЯГАНСКІ.**




## Спяшайся падпісацца на другое паўгоддзе

Каб не застацца без "Рэгіянальнай газеты", лепшы спосаб – падпісацца на яе. Падпісацца на шэсць месяцаў можна да канца чэрвеня на любым паштовым аддзяленні. З любога месяца можна падпісвацца на любы тэрмін працягласцю да канца года. Навіны рэгіёна, тэматычныя старонкі па медыцыне, садаводству і агародніцтву, гісторыі, экалогіі, прывабная праграма тэлеперадач, рэклама і аб'явы – усё гэта вы заўсёды можаце знайсці на старонках нашай газеты.

**Падпісная цана індывідуальнай падпіскі на 1 месяц – 1306** рублёў, на квартал – **3918** рублёў, на паўгоддзе – **7836** рублёў. Падпісная цана для арганізацый (ведамасная падпіска) складае **4607** рублёў на адзін месяц, **27642** рублі на паўгоддзе.

**З любоўю да вас «Рэгіянальная газета».**

# Асцярожна, баршчэўнік!

Кожнае лета ў чэрвені-ліпені да хірургаў звяртаюцца за дапамогай дзеці з незвычайным дэрматытам, які нагадвае апёкі, атрыманыя ад кантакта з раслінай пад назвай баршчэўнік. Гэта травяністая расліна адносіцца да сямейства парасонавых (вядома каля 70 відаў). Сцябло ў яе вельмі высокае, сочнае, поўнае, зялёнага колеру з чырвонымі пражылкамі. Лісты суцэльныя з зубчастымі краямі, зялёныя. Суквецці белыя, у выглядзе парасона. Расце баршчэўнік у канавах, па берагах рэк, у месцах запусцення. Сок многіх відаў гэтай расліны выклікае кантактныя дэрматыты ў выглядзе апёкаў І-ІІ ступені. Прыкметы захворвання праяўляюцца не адразу, а толькі на другія-трэція суткі пасля кантакта. На траўміраваных участках скуры з'яўляецца бalючы ацёк з пачырваненнем, а затым пухіры. Магчыма павышэнне тэмпературы.

Дзяцей прываблівае тоўстае сцябло баршчэўніка, поўнае ўнутры. Яны выкарыстоўваюць яго як "духавое ружжо", атрымліваючы цяжкі хімічны апёк гартані. Ёсць выпадкі са смяротным зыходам.

У дзіцячай хірургіі лечыцца хлопчык, які вырашыў "да смерці" напужаць камароў – ён выціснуў сок са сцябла і нацёрся ім, дзе толькі змог. Але часцей дзеці "фяхтуюць" сцябламі баршчэўніка, а праз некалькі дзён ідуць на прыём да хірурга.

Лячэнне такіх дэрматытаў доўжыцца 10-14 дзён і, як правіла, без ускладненняў.

**Маргарыта МЯЛЕЦ,**
**урач-хірург Маладзечанскай дзіцячай бальніцы.**

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Што для вас значаць словы «школьная практыка»?



**Наталля КРЫЛОВА, беспрацоўная:**

— Школу закончыла 25 год таму. Але практыку памятаю. Кветкі палолі. Класны пакой у парадак прыводзілі. Практыка два тыдні працягвалася. Мне падабалася. Трэба, каб і цяпер была. Дзяцей да працы далучаць.



**Аляксандр САЛАГУБ, пенсіянер:**

— Мае школьныя гады прайшлі ў ваеннай Францыі. Ніякай практыкі ў нас не было. Вось канікулы былі. Раз на тыдзень мы заўсёды выходзілі на праменад – экскурсію у горад, на прыроду.



**Ганна КУЗІНА, вучаніца СШ №11:**

— Я вучуся ў мастацкім класе. Таму практыку праходжу па-асабліваму. Выходзім на прыроду, садзімся каля дрэва і малюем з натуры. І так на працягу васьмі дзён. Але мне падабаецца. Трэба ж, бо сказалі, што ў 6 клас не перавядуць.



**Марына ДЗІРКО, гаспадыня:**

— Школу закончыла дзесяць гадоў таму. Добрая была справа практыка. Прыходзілі з матыкай і ў грады. Падабалася ці не, залежала ад настаўніка-кіраўніка. З тымі, хто змагаўся за грады, было цяжка. А хто за здароўе дзяцей – лягчэй. Дзецям, канешне, практыка не пашкодзіць. Але, наогул, яна не патрэбная. Вось мы пяць год палолі-палолі, цяпер усё зраўнялі – футбольнае поле зрабілі.



**Сяргей ФІЛАНОВІЧ, інспектар дзяржпажнагляду:**

— 19 гадоў прайшло, як закончыў школу. Практыка і тады была. Кветкі палолі, палівалі, турнікі ўкопвалі, нешта будавалі. Усё гэта не падабалася, таму што ў час канікулаў было. Але зараз патрэбна, каб далучаць вучняў да працы.



**Станіслаў ПАЛАЎКОЎ, вучань:**

— Хутка пайду на практыку. Што скажуць, тое і буду рабіць. Думаю, у асфальце калупацца прыйдзецца. Неахвота летам працаваць. Каб замест заняткаў, з задавальненнем бы. А так не падабаецца.

## Гараскоп 17 - 23 чэрвеня



**Авен** (21.03–20.04)

Паблізу 19 чэрвеня актывізуюцца ўсе працэсы і фінансавыя мерапрыемствы, ход якіх у апошні час не вельмі вас задавальняў. Аднак ведайце, што падзеі гэтага перыяду не поўнасцю будуць пад вашым кантролем. Таму разумна размяркуйце свае сілы і пастарайцеся стрымліваць эмоцыі.



**Цялец** (21.04–21.05)

Усё, да чаго вы рыхтаваліся апошні тыдзень, рэалізуецца. Вам застанецца толькі «збіраць вяршкі». Аднак стан здароўя жадае быць лепшым - сказваецца напружанне папярэдняга перыяду і некаторыя ўскладненні ў сям'і. Цяпер, як ніколі, вам неабходныя ўвага і клопат вашых блізкіх. Пастарайцеся з імі дамовіцца.



**Блізняты** (22.05–21.06)

Гэты перыяд пройдзе пад знакам значнага пераасэнсавання падзей і фактараў вашага жыцця, асабліва паблізу 19-20 чэрвеня. Вы пачнеце актыўны пошук унутраных рэзерваў для таго, каб перажыць той вялізны паток інфармацыі, які літаральна зваліцца вам на галаву. Пастарайцеся адсунуць як мага далей «дарадчыкаў» і «дабрадзеяў».



**Рак** (22.06–23.07)

Шмат падзей прыйдзе да свайго лагічнага завяршэння. Вы зможаце зразумець ці тое, што зрабілі правільна, ці тое, што дапусцілі памылкі. 20 чэрвеня ў якойсьці ступені стане знакавым днём (звярніце ўвагу на сны з 19 на 20-е), які завершыць складаны этап апошніх месяцаў. Настройцеся на аптымістычны лад і будзьце больш цярпімыя да каханых.



**Леў** (24.07–23.08)

Паблізу 14-15 чэрвеня актывізуецца работа ва ўсіх напрамках, узнікне спрыяльнае становішча для ўрэгулявання адносін з блізкім чалавекам. Магчыма таксама з'яўленне новых дзелавых партнёраў і прытоку грошай з непрадбачаных крыніц. Аднак агульны стан здароўя можа падвесці ў апошні момант...



**Дзева** (24.08–23.09)

Дзевы, якія адправіліся ў водпуск, паступілі найбольш разумна і рацыянальна. У тых, хто працягвае «бітву на працоўным фронце», магчымы значныя страты ў выглядзе агульнай стомленасці, раздражнёнасці і поўнай адсутнасці руху ў любой галіне дзейнасці. Паспрабуйце пагасіць гэты шэры перыяд вясёлай вечарынкай на прыродзе.



**Шалі** (24.09–23.10)

Вы даволі бесперашкодна зможаце рэалізаваць некаторыя задачы, якія паставілі перад сабой. Аднак гэта вам яўна... не захочацца. І не патрэбна. Адпачніце... Не давярайце звесткам, якія паступілі з ненадзейных крыніц, гэта можа быць вынік элементарнай зайздрасці ці неразумнай помсты.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Бліжэй да 18-20 чэрвеня завяршыцца нейкае кола падзей, з якога вы хацелі вырвацца, але перыядычна (як цыркавы конь) трапілі зноў. Нармалізуецца фізічны стан, сама па сабе пройдзе стомленасць. Вы будзеце гатовы распачаць шэраг праектаў, якія адкладаліся не па вашай волі. У сардэчных адносінах - спакой і ўзаемаразуменне.



**Стралец** (23.11–21.12)

Абвастрэнне ўзаемаадносін і канфлікты пагасіце ў самым зародку - усё залежыць ад вас. У той жа час эфектыўныя і добразычлівыя зносіны дапамогуць значна спрасціць фінансавы стан і зберагчы нервы. Так што - выбірайце! Да канца перыяду займіцеся планаваннем і падумайце аб водпуску.



**Казярог** (22.12–20.01)

Некалькі дзён вам прыйдзецца панерваваццa, але ўжо 15 чэрвеня неба над вамі праясніцца, і многія праблемы, якія круціліся над вамі, як надакучлівыя мухі, адыдуць самі сабой. Магчымы звесткі з нечаканай крыніцы, магчыма вяртанне ў ваша жыццё старых сяброў. Але ці трэба ўваходзіць у адну і тую ж раку?



**Вадалей** (21.01–19.02)

Вас пацягне ў дамашнюю абстаноўку, пад крыло сям'і. І не трэба гэтаму супраціўляцца. Тым больш, моцнае фінансавае становішча, а таксама невялікі эмацыянальны спад самі падштурхнуць вас да нядоўгага перыяду сібарыцтва. Звярніце ўвагу на сны з 15 на 16 і на візіты паблізу гэтых лічбаў - гэта будзе папярэджанне звонку.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Паспяховы ўсялякі від дзейнасці, які звязаны з інфармацыяй. Гэта добры перыяд для рэпарцёраў, юрыстаў і любога роду агентаў: перыяд, калі колькасць інфармацыі можа перайсці ў якаснае выражэнне. Гэта значыць, у фінансы. А вось асабістае жыццё, насупраць, будзе перашкаджаць і адцягваць увагу. Вы будзеце раздражняцца на блізкіх, што небяспечна канфліктамі.

# «Хвароба, ад якой не лячуся», — прызнаецца акцёр Барыс Донін

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета мы нярэдка згадвалі пра акцёра Мінскага абласнога драматычнага тэатра Барыса Доніна: у сувязі з юбілеем артыста, з яго новай роллю ў спектаклі "Хочаш вер – хочаш не вер...". Але пра тое, што Барыс Ільіч даўно і сур'ёзна хворы, гаварыць не даводзілася.**

Праўда, адданых прыхільнікаў яго акцёрскага таленту, сяброў і знаёмых просім не цягнуцца за валідолам. Хвароба Доніна не смяротная і не заразная. Яна, скажам так, інтэлігентная. Першыя сімптомы праявіліся яшчэ ў 1978 годзе – менавіта тады Барыс Ільіч на тры летнія месяцы стаў начальнікам аздараўленчага летніка "Лясны гарадок", што ў Даманаве. З той пары і "хварэе" дзяцінствам.

— Наш летнік існуе з 1958 года і за гэты час, безумоўна, вельмі пераменіўся, — распавядае Барыс Донін. – Выраслі новыя карпусы, палепшыліся ўмовы адпачынку дзяцей і работы абслугі. Паколькі летнік належыць унітарнаму прадпрыемству "Мінскаблсельбуд", то дзеці прыязджаюць у асноўным са сталіцы і бліжэйшых раёнаў Міншчыны. Прычым шмат гадоў запар, а гэта сведчыць аб папулярнасці "Ляснога гарадка".

Сёлета, да прыкладу, на працягу чатырох змен адпачыць, папраўць здароўе, набрацца станоўчых эмоцый і завесці новыя знаёмствы змогуць больш за 800 хлопчыкаў і дзяўчынак. Што толькі ні робіць адміністрацыя летніка, выхавальнікі і абслуга, каб тры тыдні сталі для дзяцей запамінальнымі і цікавымі. Нават дэвіз такі прыдумалі: свята кожны дзень! Але найлепш свае адносіны выказалі ў песні на матыў пугачоўскага "Мільёна пунсовых руж".

Ле праспявала вашаму карэспандэнту выхавальніца Алена – па жыцці настаўніца маладзечанскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў. Яна таксама не першы год лета праводзіць у "Лясным гарадку". Закахана і ў летнік, і ў юных выхаванцаў. Іх у сваю чаргу вучыць любіць прыроду, адзін аднаго і наогул жыццё.

"Лясны гарадок" няхай і месціцца ў лесе, ля прыгожай лукавіны Віліі, усё ж не здолеў пазбегнуць эканамічных праблем, уласцівых любому айчыннаму суб'екту гаспадарання. Па словах таго ж Барыса Доніна, з кожным годам усё больш праблематычна арганізаваць работу летніка. Хаця дзяржава не адмахнулася ад аздараўлення і адпачынку дзяцей, грошай не хапае. Таму абавязак адміністрацыі кожны рубель выкарыстоўваць па прызначэнню. Пакуль што гэта ўдаецца. І лепшае сведчанне таму – імкненне дзяцей зноў і зноў прыехаць у "Лясны гарадок" і жаданне бацькоў менавіта сюды "дастаць" пуцёўку.

Праўда, не кожнаму гэта ўдаецца. Менеджэр адной з маладзечанскіх прыватных фірм, якая разам з сяброўкай прыехала наведаць пляменніцу, паскардзілася: які ўжо год спрабую па льготнай цане набыць пуцёўку ў "Лясны гарадок" – не атрымліваецца. А так хочацца, каб дзіця трапіла ў казку.

Лета толькі пачалося. "Лясны гарадок" толькі-толькі прыняў першых сваіх насельнікаў. Наперадзе – цудоўная пара адпачынку ў дзяцей, клопатаў і трывог – у работнікаў летніка, інтэлігентнай хваробы – у яго дырэктара.

**Віталь АЛЯКСАНДРАЎ.**



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

**Рэгіянальная газета**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9170** экз. Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№24 (374) 14.06.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1756. Падпісана ў друк у 13.00 13.06.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»**